## ЗЬМЕСТ



**НАШЫЯ ПРАДСТАЎНІЦТВЫ**

**ЗША**

Miss L. Michalcyk, 1211 Starkweather Ave., Cleveland, Ohio

Mr. A. Karol, 30 Easton Ave., New Brunswick, N. J.

Mr. M. Kuczura, 1217 N. Wolcott Ave., Chicago 22, Illinois

Miss S. Pleskacz, 17574 Brush Ave, Detroit 3, Mich.

Mr. M. Sienka, 24 Herman St., South River, N. J.

**Канада**

Mr. U. Baranovich, 111 Lindsey Ave., Toronto, Ontario

Mr. K. Karanieuski, 143 Cathleen St., W, Sudbury, Ont., Canada

Mr. B. Lisconak, 472 Bayron Court, Oshawa, Ontario.

**Ангельшчына**

Mr. A. Laszuk, 97 Moore Park Road, London S. W. 6

**Бэльгія**

Mr. M. Streczyn, Place Hoover 19, Louvain

**Зах. Нямеччына**

Miss. R. Stankievic, (13b) Muenchen 13, Ainmillerstr 33/4

**Аўстралія**

Mr. W. Akavity, 80 Tapleys Hill Rd., Royal Park, S. A.

Mr. M. Nikan, 14 Steel St., Spotswood, Victoria

Mr. A. Vasilenia, 39 Edwin St., Croydon, New South Wales.


Адрыс рэдакцыі: „Беларуская Моладзь", 401 Atlantic Ave., Brooklyn 17, N. Y.

Гадавая падпіска у ЗША й Канадзе — $2. Грашовыя пераказы выстаўляць на: "BYELORUSSIAN YOUTH"

Text in English and Byelorussian. Four times a year. Supplements issued irregularly. Byelorussian Youth Association of America, 401 Atlantic Ave., Brooklyn 17, N. Y.


# БЕЛАРУСКАЯ МОЛАДЗЬ


**Квартальны часапіс беларускага маладога пакаленьня ў Амэрыцы**

**Выдае: Згуртаваньне Беларускае Моладзі ў Амэрыцы**

**Рэдагуе: Калегія**

**Год. выд. II. ВЕРАСЕНЬ - КАСТРЫЧНІК 1960 г. № 8**




***ВЯСЁЛЫХ СЬВЯТАЎ!***

***З НОВЫМ ГОДАМ!***

## 9-Ы ЗЬЕЗД ЗБМА

9-ы гадавы зьезд ЗБМА адбыўся ў сыботу 3-га верасьня ў будынку новае беларускае праваслаўнае царквы ў Кліўленьдзе. Нарады пачаліся а 2-ой гадзіне папаўдні.

У прэзыдыюм зьезду былі абраныя: Юрка Станкевіч за старшыню, Лёля Міхальчык і Аўген Несьцяровіч за сакратароў. Прадстаўнікі беларускага грамадзтва, што наведалі Зезд, прывіталі ўдзельнікаў яго ды пажадалі ўдачаў у далейшай працы ЗБМА.

Першым прамаўляў рэдактар газэты „Бацькаўшчыны" др. Ст. Станкевіч. Ён сьціраваў увагу на вялікую ролю беларускае моладзі ў беларускім вызвольным руху й падчыркнуў, што беларуская моладзь на эміграцыі павінна падтрымваць гэтую традыцыю, тарнуючы сваю дзейнасьць да тых абставінаў, у якіх яна жыве. Мы павінны быць добрымі грамадзянамі Амэрыкі й беларускімі патрыётамі. Гэта адно аднаму не пярэчыць, а наадварот — дапаўняе й робіць з нас больш вартасных людзей.

Іншымі прамоўцамі былі: сп. сп. С. Гутырчык — старшыня аддзелу БАЗА ў Саўт-Рывэры й Нью-Брансўіку, Ю. Гасьцееў — старшыня аддзелу БАЗА ў Кліўленьдзе , А. Стагановіч — ад Рады БНР, К. Мярляк — старшыня галоўнае ўправы БАЗА.

Прыняўшы пратакол папярэдняга зьезду, дэлегаты выслухалі справаздачы зь дзейнасьці аддзелаў ЗБМА, галоўнага кіраўніцтва, выдавецтва „Беларуская Моладзь" і рэвізійнае камісіі.

Із справаздачаў было відаць, што ў усіх аддзелах была добра пастаўленая мастацкая самадзейнасьць. Танцавальныя гурткі зь Нью-Ёрку й Кліўленду выступалі на тэлевізіі й на міжнародных фэстывалях ды шмат спрычыніліся да пашырэньня беларускага імя. У Нью-Ёрку на працягу апошніх двух год ЗБМА было актыўным удзельнікам фэстывалю Народных Мастацтваў. Кліўлендзкі мяшаны хор моладзі выступаў у Дэтройце й Чыкага, запрошаны туды мясцовымі Беларусамі. У Кліўленьдзе, аднак, цяжка было весьці сыстэматычную працу з усімі гурткамі дзеля занятасьці сяброў пры будове царквы.

Старшыня аддзелу, сябра Дунец, адцеміў таксама, што на дзейнасьці аддзелу адмоўна адбіваецца пераходны пэрыяд, калі старэйшыя адыходзяць, а малодшыя яшчэ не падрасьлі да выконваньня кіравецкіх абавязкаў. У Нью-Ёрку праца вялася хіба найболыш сыстэматычна. Побач із мастацкай сама-дзейнасьцяй тут часта ладзіліся таксама спартовыя выезды й экскурсіі.

Уступаючае галоўнае кіраўніцтва ЗБМА (кіраўнік — Вячаслаў Станкевіч) шмат зрабіла ў галіне рэпрэзэнтацыі навонкі. Было наладжанае цеснае супрацоўніцтва з украінскімі арганізацыямі моладзі ОДУМ і СУМА. Галоўнае кіраўніцтва напісала лісты да сэнатараў штату Нью-Ёрку, інфармуючы іх пра зьдзекі над беларускай моладзяй у Казахстане. Апрача гэтага пісаліся лісты ў амэрыканскую прэсу, каб выправіць хвальшывыя цьверджаньні й ведамкі аб Беларусі. ЗБМА сталася адным зь першых сяброў „Эўрапэйскага Інстытуту" — інстытуту ўзгадаваньня моладзі эўрапэйскіх уцекачоў. *)

У справаздачы рэдакцыйнае калегіі „Беларускае Моладзі" былі высьненьня заданьні гэтага часапісу:

1. быць для моладзі крыніцай ведаў аб Беларусі й беларускім народзе:
2. быць арганізацыйным лучнікам беларускае моладзі на эміграцыі;
3. памагаць узгадоўваць на добрых Беларусаў і грамадзянаў;
4. прышчапляць моладзі замілаваньне да роднага слова.

Прадстаўнік рэдкалегіі часапісу паказаў, што зьмест сямёх папярэдніх нумароў „БМ" быў адпаведна падабраны, але падчыркнуў, што часапіс толькі тады выпраўдае спадзяваньні, калі беларускае грамадзтва, асабліва беларускія бацькі, парупяцца, каб ён усюды трапляў у рукі моладзі.

Старшыня рэвізійнае камісіі Васіль Мельяновіч у сваёй справаздачы запрапанаваў прызнаць уступаючаму галоўнаму кіраўніцтву абсалютарыюм з падзякай, што й было прынята зьездам. На прапанову сябры Уладзімера Дунца дэлегаты выказалі таксама падзяку рэдкалегіі „Беларускае Моладзі".

**У новае галоўнае кіраўніцтва ўвайшлі:**

Уладзімер Дунец — галоўны кіраўнік, Аўген Несьцяровіч — заступнік гал. кір., Лёля Міхальчык — сакратар, Вячаслаў Станкевіч — сакратар, Сяргей Карніловіч — скарбнік.

**У рэвізійную камісію** былі абраныя: Маня Лук'янчык, Паула Алексы й Міхась Яраховіч, а ў **сяброўскі суд** — Міхась Казьлякоўскі, Аркадзь Каваль і Юрка Станкевіч.

**Рэзалюцыйная камісія** 9-га зьезду ЗБМА выслала прывітаньні прэзыдэнту ЗША, мясцовым амэрыканскім уладам ды беларускім грамадзкім і царкоўным установам. Резалюцыйнай камісіі было даручана таксама апрацаваць лісты да абодвух кандыдатаў на прэзыдэнта ЗША ды зварот да старэйшага беларускага грамадзтва на эміграцыі з дамаганьнем большага зразуменьня й падтрыманьня дзейнасьці ЗБМА.

Па дыскусіі над прапановамі **статутовай камісіі** (старшыня Аўген Несьцяровіч) былі прынятыя гэткія важнейшыя папраўкі да статуту ЗБМА:

1. Да сказу „Мэта ЗБМА — выхоўваць сяброў на ... добрых Беларусаў" пастаноўлена дадаць „і грамадзянаў Амэрыкі".
2. Цяпер галоўнае кіраўніцтва мае складацца зь пяцёх сяброў: кіраўніка, заступніка гал. кір., двух сакратароў і скарбніка (дасюлешняя функцыя вольнага сябры ператвораная ў функцыю другога сакратара).
3. Сяброўскі суд ЗБМА стаецца асобнай адзінкай і адлучаецца ад рэвізійнае камісіі.

*) Гл. артыкул „Паўстала патрэбная арганізацыя ў № 6 „БМ".



Апошнім пунктам нарадаў зьезду былі **пляны на будучыню.** Сябра Міхась Казьлякоўскі падаў да ведама зьезду свой плян выдаць адмысловы альбом, прысьвячаны 10-годзьдзю ЗБМА. У альбоме былі-б зьмешчаныя фатаграфіі ўсіх сяброў, фатаграфіі найцікавейшых падзеяў ды апісаньне дзейнасьці Згуртаваньня. Зьезд даручыў новаабранаму кіраўніцтву дакладна даведацца аб практычных магчымасьцях выданьня гэткага альбому, у прынцыпе падтрымваючы гэты праект.

Сябра Вячка Станкевіч прапанаваў, каб **наступны зьезд** зрабіць у форме лягеру (удзельнікі жылі-б у шатрох; калі-б хто хацеў больших выгодаў, мог-бы начаваць у гатэлі). Гэткі лягер можна было-б зрабіць дзенебудзь напаўдарогі паміж беларускімі асяродкамі — сярод прыроды.

У нядзелю 4 верасьня моладзь усіх аддзелаў ЗБМА брала ўдзел у канцэрце, які ўваходзіў у праграму 4-ае сустрэчы Беларусаў Паўночнае Амэрыкі. Выступалі танцавальныя групы зь Нью-Ёрку й Нью-Брансўіку, кліўлендзкі мяшаны хор, сьпявачкі Клава й Оля Ярашэвіч ды Іра Калядa, а таксама аркестра беларускае школы ў Кліўленьдзе пад кіравецтвам сп. К. Кіслага. Усе ўдзельнікі, асабліва маладыя музыкі, заваявалі сабе шмат сымпатыі ад публікі, што ледзь мясьцілася ў канцэртнай залі.



**Новае галоўнае кіраўніцтва ЗБМА (зьлева направа): Уладзімер Дунец, Сяргей Карніловіч, Вячаслаў Станкевіч, Аўген Несьцяровіч; сядзіць: Лёля Міхальчык.**

---

Удалы канцэрт ды папярэднія прамовы кангрэсмэна М. Фэена й сэнатара Ф. Лаўшэ, поўныя зразуменьня й сымпатыі да беларускага народу, бадзёрым рэхам адбіліся на настроі ўсіх удзельнікаў 4-ае сустрэчы.

Нам найболыш спадабаўся сын кангрэсмэна Фэена, што выступіў з кароценькай прамовай: „Я веру, — заявіў ён, — што беларускі народ, які абараніўся ад Чынгіс-Хана, пераможа й сяньняшнюю няволю!" Яму й сэнатару Лаўшэ быў даручаны № 7-мы „Беларускае Моладзі".

Вось і прайшоў удалы зьезд ЗБМА, канцэрт, вечарына, урачыстае высьвячэньне кліўлендзкае царквы... У памяці застаюцца сустрэчы з даўно нябачанымі сябрамі, новыя й цікавыя знаёмствы... У сэрцы застаецца пачуцьцё беларускае салідарнасьці — пачуцьцё, што нашая праца прынясіць плады, што йдзём па правільнай дарозе!

**Удзельнік.**

# PIONEERS OF BYELORUSSIAN CULTURAL RENAISSANCE

## 1864-1900

In the article „Litva — the former name of Byelorussia"* we have dealt with the power, renown and flourishing culture of Byelorussia in the years 1300-1795, when it was known as the „Grand Duchy of Lithuania (Litva)". Its independence ended in 1795, when Czarist Russian armies conquered it and introduced the policy of oppression and Russification. The uprising of 1863-1864, led by Kastus Kalinouski, was a major protest of the Byelorussian people against this oppression and an attempt to regain their freedom with arms.

Although the uprising was brutally suppressed and Kastus Kalinouski executed, the memory of the freedom fighters and Kalinouski's revolutionary ideas, expressed in his newspaper „Muzyckaja Prauda" (Peasants' Truth), remained strong among the Byelorussian farmers. They also created great interest in the objective Russian scholars and among scholars of Byelorussian descent who were culturally russified.

Attempts to continue Kalinouski's literary and political activity were effectively stopped in 1867 when Russians prohibited printing of books and newspapers in Byelorussian language. The regeneration of Byelorussian culture was slowed down. The prohibition of Byelorussian print, however, did not prevent many interested scholars from studying Byelorussian language, traditions, folklore, and national culture. Most of them were etnographers — Kirkor, Nikifarouski, Ramanau, Fedarouski, Shein, Jelski, Nasovic, Rybinski, and others. Younger Byelorussians continued their revolutionary fight in cooperation with the Russian liberal movement. One of the outstanding Byelorussian liberals was IHNAT HRYNIAVIECKI, a student at the Petersburg Polytechnic Institute. He belonged to an illegal group of liberals, whose goal was to destroy the Czarist rule and to rebuild the Russian empire as a federation of free nations. On March 1, 1881 Ihnat Hryniaviecki assassinated Czar AlexanderII. The bomb, which killed the Czar, also fatally wounded young Ihnat. He died the same night, at the age of 25.

Despite the prohibition of printing in Byelorussian, many pamphlets, poems and popular dissertations of political and patriotic character were printed

*The articles „Litva — the Former Name of Byelorussia „and" Kastus Kalinouski" were printed in Byelorussian in №. 6 and 7 of „Byelorussian Youth". Subscribers of our magazine shall soon receive reprints of these articles in English.



illegally and circulated among the Byelorussian population. Some were printed abroad and smuggled into Byelorussia. A magazine entitled „Zhavor" (Agreement) was published in Switzerland in 1870 by Byelorussian refugees, who were former freedom fighters.

The pioneer of this illegal literary movement was a former participant of the 1863 uprising, FRANCISAK BAHUSEVIC, who fled to the Ukraine after the revolt was crushed. There he began to write Byelorussian poetry under assumed names „Maciej Buracok", „Symon Reuka spad Barysava" and others. His best known works „Dudka Bielaruskaja" (Byelorussian Fife) and „Smyk Bielaruski" (Byelorussian Fiddlestick) were published abroad, in the cities of Krakow and Poznan, in Poland.

Francisak Bahusevic was by necessity a political poet — a patriot. In his poems he made it clear to his countrymen, that only by being united, educated and proud of their Byelorussian culture and traditions would they be able to end injustice and insults by the Russians and gain full national and economic freedom. He advised Byelorussians not only to rely on aid from sympha thetic foreigners, but also on their own strength. In his fore word to „Dudka Bielaruskaja" he wrote:

"My dear brothers, children of my mother country. Devoting my



IHNAT HRYNIAVIECKI

work to you„ I must tell you a little about our ill fate, about our fathers' century-old Byelorussian language, which we ourselves, and not only we, but all uneducated people call the "peasants' tongue".

...I have found, that our language is just as human and noble as the French, German or any other. I have read many old documents, written 200 or 300 years ago in our land and written by great noblemen in the very same our language, just as if they were written now.

...Our language is sacred to us, because it was given to us by God, the same as to other good people. We use it to say much that is good; it is we, however, who have

neglected it, just as the great noblemen prefer nowadays to speak French rather than to use their own language.

...Is it really necessary for us to read and write only in a foreign language? It is good, and even wortwhile to know a neighbor's language, but first of all one has to know his own.

...There were many peoples, who first lost their language and then died out completely, like a man, who loses his power of speech before passing away. Do not abandon then our Byelorussian language, or else you will die! People are usually recognized by their speech, or by clothes they wear; the speech, the language is actually the clothing of the soul.

...Perhaps one may ask: where is Byelorussia now? It is there, my brothers, where our language lives and prevails: it extends from Vilnia to Mazyr, from Viciebsk nearly to Carnihau, where are cities Hrodna, Miensk, Mahileu, Vilnia and many other towns and villages..."

*Maciej Buracok*

Beside Bahusevic there were other cultural pioneers. Among them stand out poets Jan Niasluchouski (wrote under the pseudonym „Janka Lucyna"), Adam Hurynovic* and Kazimier Kastravicki. Kastravicki, who wrote under the name "Karus Kahaniec" was a very talented individual: a poet, writer, playwright.

These beginnings of modern Byelorussian literature, with their appeal to the national pride and frequent mention of national independence and power in the past, created great interest in Byelorussian history among those scholars, who were of Byelorussian descent and were often patriots in their hearts. Professors Daunar-Zapolski, Lubauski, Piceta, Lappo made significant contributions to the understanding of Byelorussia's past. Prof. *I. Karski* wrote an extensive work on Byelorussian culture, folklore, language and history, entitled "The Byelorussians".

Under the influence of their teachers, students and youth in general became interested in the cause of Byelorussian renaissance.Soon groups of patriotic Byelorussian students were formed at the Universities of Petersburg, Moscow, Warsaw, Kieu, Paris, Krakow, Odessa*. These student circles produced many cultural and political leaders, who organized and guided the Byelorussian *political* movement of 1900-1918, climaxed by the Declaration of Independence on March 25, 1918.

*Licvin*

* See an article in No. 4 of "Byelorussian Youth".

* As you can see, all these universities are outside Byelorussia. The Russian government had closed all institutions of higher learning in conquered Byelorussian territory. The last one to be closed was the University in Vilnia in 1832.



**Старэйшыя малодшым**

# КАЛІСЬЦІ У МЕНСКУ

Менск. 1916 год. Вайна зь Немцамі. На Захараўскай вуліцы № 24, супраць Новага Касьцёлу ў трохпаверхавым будынку крайнія дзьверы й вітрыннае вакно. Над вакном надпіс: „Саха й Лучынка". У вакне колькі кніжак і брашурак зь дзіўнымі загалоўкамі, нязвычнымі для вучаніцы тагачаснае менскае школы (расейскае, бо іншых школаў ў Менску ня было). Ды гэта мяне й ня дужа цікавіць наразе. Я прыйшла сюды атрымаць для шыцьця накроеныя салдацкія кашулі, бо тут— Камітэт дапамогі ахвярам вайны.

— Чаму ты, дзяўчынка, не адказваеш мне пабеларуску, як я гавару?— зварачаецца да мяне, адлічваючы кавалкі мутна-жаўтаватай бязі, надзвычай ветлівая й прыемная маладая паненка. — Далікатнасьць вымагае адказваць у тэй мове, у якой да цябе зварачаюцца, ведама-ж, калі ўмееш.

—Я ня знаю, — зьмешана пралапатала я, прывыкшы, што ў афіцыйных установах трэба гаварыць парасейску.

— Што, ня ведаеш? Ня ведаеш, ці умееш? Пэўна-ж умееш! Па носе бачу, што ўмееш, — вясёла сьмяецца. — Глянь, тата, яна ня ведае, ці ўмее пабеларуску.

Старэйшы, але не стары яшчэ чалавек у сівой даматканай марынарцы, глянуў вясёлымі шэрымі вачыма зь іскрынкай насьмешкі.

— Нічога, неўзабаве пазнае, што йнакш ня ўмее, а толькі пабеларуску. І зноў сьхіліўся над паперамі.

Гэта быў Антон Лявіцкі, наш пісьменьнік Ядвігін Ш., і ягоная дачка Ванда Лявіцкая, пасьля жонка Язэпа Лёсіка. Ядвігін Ш. вельмі быў падобны да Францішка Багушэвіча, толькі больш прадаўгаваты твар, вайстрэйшая бародка ды весялейшы пагляд.

Так сталася, што я засталася памагаць, замяняючы Ванду, якая мела шмат працы, больш для яе адпаведнай. Выдаючы хусьце, я бачыла, што сюды прыходзяць іншыя людзі, гавораць, раяцца, чытаюць лісты, спрачаюцца, цешацца або маркоцяцца. Гэта былі Уладыслаў Галубок, Зьмітрок Бядуля, Рамуальд Зямкевіч. Усе гавораць такой мовай, як у нас удома, але пра што — мне, пятнаццацігадовай дзяўчыне з ускраіны Менску, мала зразумела:— Карэктуру прынесьлі. . .Рукапіс захавай. . . Набраць пэтытам . . . Пішуць зь Вільні . . Адкажы ў Пецярбург. . .

Ванда Лявіцкая вяла ўсё ліставаньне. Укладаючы свае літаратурныя здольнасьці, цяпліню свайго добрага сэрца й замілаваньне да кажнай праявы беларускага адраджэньня, яна адказала на вельмі лічныя лісты й допісы сваім прыгожым почыркам.

У суседнім пакоі быў музэй тканінаў, вакол якіх заўсёды клапаціўся **Рамуальд Зямкевіч.**

У міжчасе Ванда падсоўвала мне тую ці іншую кніжку. Гэта былі: Коласавыя „Песьні жальбы" й „Рожныя зьявы", Максіма Гарэцкага „Рунь", Барашэвічава „Дудка беларуская", Багдановічаў „Вянок", „Курганная кветка" Буйлы, „Скрыпка беларуская" Цёткі, Бядулевы „Абразкі", „Бярозка" Ядвігіна Ш., „Вязанка" Няслухоўскага, „Гусьляр" і „Жалейка" Янкі Купалы. Але найбольшае ўражаньне рабіла Купалавае „Шляхам жыцьця", часапіс „Маладая Беларусь", асобныя нумары газэты „Наша Ніва". Гэтыя кніжкі я чытала й давала чытаць сваім школьным сяброўкам.

Неўзабаве гэтая група беларускіх дзеячоў займела драўляны будынак

тут-ка блізка на Захараўскай 18. Гэты будынак і стаўся першай Беларускай Хаткай. Гэта была запраўдная хатка, „стол і дом" для беларускіх дзеячоў, што прыбывалі ў Менск.

Я хачу расказаць аб тэй рабоце, якую вяла група беларускіх дзеячоў у гэтай „хатцы" з намі, моладзяй.

Што сыботы ладзіліся вечарніцы-сыботнікі. Нас, школьнікаў, было каля дзесяцёх ды колькі юнакоў-чыгуначнікаў, якіх прыводзіў Галубок.Із старэйшых найбольш выразна помняцца Ядвігін Ш, ягоная дачка Ванда, Бядуля й дзьве ягоныя сястры, Уладыслаў Галубок, панна Людзьвіка (пазьней жонка Фабіяна Шантыра) з маткай; неўзабаве зьявіўся Аркадзь Смоліч.

Цікавы мэтад уплыву на нас выбралі гэтыя выдатныя людзі. Выглядала, што зьбіраюцца яны, дарослыя, а мы — таксабе, радыя, што запрошаныя і можам тут быць.

У сьвятліцы, дзе ўдзень была страўня хатніх абедаў, сталы й крэслы адсоўваліся да сьценаў, і мы, як вераб' і на дроце, масьціліся на іх.

— Што-ж, можа пасьпяваем зыбраўшыся, — прапануе Лявіцкі.

— Але хто пакіруе? — цікавіцца Бядуля.

—Ну, хіба ўжо я, пакуль знойдзецца хто больш адпаведны. І на сярэдзіну пакою выходзіў Аркадзь Смоліч, малады, шыракаплечы, з буйнымі энэргічнымі рысамі твару. Вырослыя ўсе да аднаго, хто мог ці ня мог сьпяваць, станавіліся, клікалі нас перад сабой. Кажны сыботнік мы вучыліся па аднэй або па дзьве беларускія народныя песьні. Сьпяваць было найбольш улюбёным заняткам на нашых сыботніках. Гэта былі ня сьпеўкі з вучэньнем партыяў і муштрай. Проста сьпявалі на чатыры галасы, а выходзіла добра, таму сьпявалі шмат.

Нехта прапанаваў паскакаць. Старэйшыя бралі нас у пары. Той-жа самы Смоліч, патрасаючы ільвінай чупрынай, вучыў скакаць „Лявоніху", „Юрачку", „Крыжачка". Ведама, пасьлей ужо мы скакалі самі, але што гэта за скокі, скажам, бязь дзядзькі Лявіцкага або бяз Галубка, які так лоўка ўмее прытоптваць!

Бядуля не скакаў ніколі з намі, не дэклямаваў, затое сьмяшыў нас жартамі ды трапнымі мянушкамі.

Ніхто нам ня чытаў лекцыяў, не пераконваў, не агітаваў. Гэтыя выдатныя людзі выбралі найвайстрэйшую зброю — мастацкае слова. Яны прамаўлялі да нас вуснамі нашых паэтаў-адраджэнцаў. Калі Смоліч дэклямаваў Купалава „Над Нёмнам" або Гарунова „Ты, мой брат, каго зваць Беларусам"; калі Галубок дэклямаваў гарачыя Купалавы поклічы; калі Лявіцкая дэклямавала цёплыя Цётчыны ды Буйлянчыны творы — тут была й любасьць да пакрыўджанае бацькаўшчыны, і слаўная мінуўшчына яе, і пашана да свае мовы. Гэта было для нас і навукай, і клічам, і загадам, і праграмай дзейнасьці. Мы бачылі ідэю, і то высокую, велічную ідэю змаганьня за волю свае бацькаўшчыны й свайго народу.

Гэтая група беларускіх дзеячоў трымала сябе так, быццам яны самі —зусім нязначныя, толькі перадаюць нам, а вось ёсьць Янка Купала, Алесь Гарун, Багдановіч — вось дзе сіла! Дэклямавалі іхныя творы, гаварылі аб іх, як аб непараўнальна вялікіх, а разам з тым так па-сямейнаму, пасвойску, як аб браце: дзе ён, як маецца, што піша. Так мы даведаліся, што Максім Багдановіч хворы, зьбіраецца неўзабаве прыехаць, думае, што на Бацькаўшчыне ўздужае. Даведаліся, што Алесь Гарун таксама хворы, але прыехаць ня можа, тады нам не маглі сказаць чаму (ён быў тады у царскай высылцы). Так што мы жыва адчувалі, паважалі й любілі гэтых нашых паэтаў.

Зусім зразумела, што сьледам за вырослымі й мы ймкнуліся дэклямаваць. Ніяк не магу успомніць, каб хто даваў заданьні, або вучыў дэклямацыі. Проста хацелася выказаць тое, што адчувалася, а відаць, Ванда Лявіцкая ці Смоліч падсоўвалі адпаведныя кніжыцы.

Любілі й пажартаваць. Ядвігін Ш. дэклямаваў або чытаў гумарыстычныя творы Паўловіча. „У судзе" Вагушэвіча.

Разыходзіліся заўсёды шчасьлівыя, свае, блізкія, з багатымі уражаньнямі, з новымі ведамі, а галоўнае з пачуцьцём, што дакрануліся да інтэлігэнтнасьці, далікатнасьці, духовай вышыні й ідэйнасьці, якой не знаходзілі перад гэтым, а якой прагнула й жадала маладая чулая душа.

У вадзін із такіх восеньскіх сыботнікаў зьявіўся Максім Багдановіч. Высокая, худая крыху суглобая постаць, павольныя рухі, бледны дробны твар. Сур'ёзны, спакойны позірк хваравіта бліскучых вачэй. Ён быў мала падобны да тых фото, што мы знаходзім у нашых выданьнях. З папярэдніх размоваў, ды па тэй увазе, зь якой яго спаткалі старэйшыя, мы зразумелі, што гэта вялікі чалавек ды праніклііся глыбокай пашанай да яго. Максім Багдановіч сядзеў на нашых вечарніцах ціха, бязмоўна, бязудзельна, толькі па ледзь значнай шчасьлівай усьмешцы, якая квола зацьвітала на ягоных вуснах, мы здагадваліся, што ён цешыцца з нашых сьпеваў, скокаў, асабліва з дэклямацыяў. Аднойчы навет прачытаў сваю „Скандынаўскую песьню".

Незабыўная сцэна аднэй вечарыны канца 1916 году. Нейк у сярэдзіне вечарыны Смоліч папрасіў усіх сесьці.

— Я маю прачытаць верш, новы твор.— Тон голасу нізкі, прыцішаны.— Аўтар прасіў не называць яго імя.



# ГЭРБЫ БЕЛАРУСКІХ МЕСТАЎ



**ДАВІД - ГАРАДОК.** Партовыя пабудовы, рэчка й наладаваны карабель сымбалізуюць гэты горад як рачны порт. Давід-Гарадок ляжыць над Прыпяцяй. — **ПІНСК.** Нацягнуты лук із стралой з мэталёвым наканцоўем. Фон чырвоны. — **МАЗЫР.** На блакітным фоне шчыту чорны арол з раськінутым крыльлем.

Смоліч урачыста, ціха прачытаў „Пагоню". У прыцемненым, з поваду ваеннага часу, пакою панавала абсалютная ціша. Пасьля нясьмелае: „Хто гэта? Хто напісаў"? Старэйшыя абступілі Смоліча, зашумелі.— Гэта нябывалае у нашай. . . ды што ў нашай — у сусьветнай літаратуры . . . Хто аўтар?

— Я зьвязаны словам, я сказаць не магу, пастарайцеся здагадацца.

— Прачытайце яшчэ раз! Гэта . . . гэта . . .не знаходзіць словаў Ядвігін Ш. Цяпер ужо Смоліч ня чытае, а праймкненна дэклямуе. закончывае амаль скандуючы: „ . . .СТАРАДАЎНАЙ ЛІТОЎСКАЙ ПАГОНІ НІ РАЗЬБІЦЬ НІ СПЫНІЦЬ, НІ СТРЫМАЦЬ . . ."

— Гэта можа быць або Янка Купала, або . . .або наш Максім! — выпаліў Лявіцкі.

— Ён, — каротка кінуў Смоліч.

А ў другім канцы пакою сядзіць аўтар, усхваляваны, ледзь ухапляючы паветра сваймі хворымі грудзьмі.

— Вось цяпер я маю права публічна прывітаць Вас із навароджаным вялікім творам. — і тонкая рука Максіма Багдановіча згубілася ў буйнай энэргічнай руцэ, а затым і ўся ягоная постаць патанула ў шырокіх абдымках Смолічавых рамёнаў.

— Ды пусьці ты, мядзьведзь, —бароніць Бядуля, адпіхаючы Смоліча, намагаючыся падайсьці, прывітаць аўтара. Але Багдановіча ўжо вітае Лявіцкі.

— Ну, калі такое маглі напісаць, то Вам і зусім паміраць нельга-выпаліў з узварушаньня гарачы Галубок, і тут-жа, зразумеўшы, якую дурніцу ляпнуў, заліўся сьлязьмі. (За колькі месяцаў гэты-ж самы Галубок адвёз Максіма Багдановіча лячыцца ў Ялту, дзе той і памёр).

Тут Бядуля падыйшоў да Багдановіча з шырокай усьмешкай на мяккім твары. — Дык кажаш" . . .ні разьбіць, ні спыніць, ні стрымаць" . . . Хе-Хе, сакол! — і паціскаючы ягоную руку, папляскаў па плячы.

Мы сядзелі прыціхшы, не здаючы сабе справы, што зараз вось былі сьведкамі вялікай падзеі.

— Можа папросім, каб аўтар сам прачытаў свой твор, — запрапанаваў Смоліч.

— Аўтара, аўтара! — панеслася шумна з усіх бакоў. Але Багдановіч адмовіўся. Ён адчуваў сябе зьняможаным.

Гэтым разам мы борзда разыйшліся.

Ваенныя й палітычныя падзеі 17-га году спынілі вечарніцы. Праца прыняла іншыя формы й характар. Але гэтыя сустрэчы далі нам аснову беларускага сьветагляду. Там мы пазналі, — хто мы, знайшлі ідэю мэту жыцьця і працы, навучыліся любіць і шанаваць усё беларускае й кажнага ідэйнага Беларуса.

А. С.




**САРАКОВЫЯ УГОДКІ СЛУЦКАГА ПАЎСТАНЬНЯ ўшануй ахвярай на выданьне „Слуцкага Альманаху" праз набыцьцё ў нашым выдавецтве юбілейных марак. Памажы замацаваць гісторыю Слуцкага Паўстаньня. Наклейвай гэтыя маркі на лістох і пачкох. Пашырай праўду аб Беларусі.**



# ХРОНІКА

## НЬЮ-ЁРК

27-га верасьня зь Нью Ёрку ў Эўропу выехала сяброўка **Рая Станкевіч.** Дагэтуль Рая працавала пры кальпартажы „БМ" і была скарбнікам выдавецтва. Цяпер яна будзе нашым прадстаўніком у Мюнхэне. Жадаем ёй шчасьлівага павароту па сканчэньні студыяў у Эўропе!

У верасьні таксама выехала на студыі ў Эўропу сяброўка **Людміла Войтэнка.** Людміла, падаючыся на мэдычны факультэт Лювансказа ўнівэрсытэту ў Бэльгіі, далучыцца да дабра ведамага на эміграцыі беларускага студэнцкага асяродку. Жадаем удачаў у навуцы!

Сяброўка **Ала Орса** вярнулася з Эўропы. Яна брала ўдзел у канфэрэнцыі крышталёграфаў у Лёндане, а пасьля зрабіла падарожжа па кантынэньце. Будучы ў Нямеччыне, яна наведала беларускую калёнію ў Мюнхэне.

**Вітаем** сябру Вячаслава Станкевіча й сп-чну Джоэнн Айві із шлюбам, які адбыўся 10-га верасьня. Жадаем маладой пары шчасьлівай будучыні!

**Гадавы сход** аддзелу ЗБМА ў Нью-Ёрку адбыўся 7-га кастрычніка. Сход пад старшынствам сябры Аўгена Несьцяровіча й сакратарствам Вячкі Станкевіча прывіталі паважаныя госьці: Яго Высока Прэасьвяшчэнства Уладыка Васіль і сп. Мярляк, старшыня галоўнай управы БАЗА.

Пасьля справаздачаў уступаючага кіраўніцтва (А. Лысюк — кіраўнік, А. Каваль — заступнік, С. Цэлеш — сакратар, О. Мельяновіч — скарбнік, В. Станкевіч — сябра) і на рэкамэндацыю рэвізійнай камісіі, сход прызнаў ім аднагалосна абсалюторыюм з падзякай. Сход, нажаль, ня выказаў крытычнага падыходу , не адзначыўшы заганаў у дзейнасьці, а толькі запісаўшы яе ў справаздачы. Дыскусія пакінула ўражаньне, што кіраўніцтву важней было ўсё запісаць, чымся праводзіць шырэйшую работу.

Галоўнымі пунктамі дзейнасьці былі: рэпрэзэнтацыя навонкі, як удзел у парадах, акадэміях, мастацкіх выступах; і нутраная праца: экскурсіі, спартовыя заняткі, вечарынкі й гульні.

Сход абраў новае кіраўніцтва: **Васіль Мельяновіч** — кіраўнік, **Кастусь Верабей** — заступнік, **Міхась Казьлякоўскі** — сакратар, **Паўла Алексы** — скарбнік і **Уладзімер Тарашкевіч** — сябра. У рэвізійную камісію увайшлі: **Б. Яновіч, М. Заморскі, А. Акановіч.**

У разгляданьні плянаў на будучыню найбольш прадумана выступаў М. Казьлякоўскі, сярод прапановаў якога былі: дапамога беларускай моладзі ў Нямеччыне, належнае адзначэньне 10-ых угодкаў ЗБМА, высыланьне часапісу „Беларуская Моладзь" задарма сябром ЗБМА ды іншыя. Кастусь Верабей выступіў з пажаданьнем набыць добрыя кружэлкі або й стужкі беларускіх народных танцаў; Багуш Станкевіч — з дамаганьнем наладзіць і трымаць інвэнтар маемасьці аддзелу. Карацей бралі слова: В. Мельяновіч, А. Лысюк, А. Несьцяровіч, О. Мельяновіч і В. Станкевіч. Сход быў скончаны беларускім нацыянальным гімнам.

### Спатканьне зь Міжнародным Клюбам

У пятніцу 14-га кастрычніка аддзел ЗБМА правёў супольна вечар зь сябрамі Міжнароднага Клюбу пры бруклінскай ІУКА. У праграму вечару ўвайшло: плаваньне, гульня ў шахматы й пачастунак.

**Перадвыбарны вечар.**

У сыботу 15-га кастрычніка ў Беларускім Грамадзкім Цэнтры адбыўся інфармацыйны вечар для беларускага грамадзтва, на якім выступалі прадстаўнікі ад рэспубліканскай і дэмакратычнай партыяў у сувязі зь недалёкімі выбарамі прэзыдэнта ЗША. Прадстаўнікі партыяў высьвятлілі фільмы аб сваіх кандыдатах і адказвалі на пытаньні. Вечар быў наладжаны сябрам ЗБМА Міхасём Казьлякоўскім.

---

У пятніцу ўвечары 18 лістапада адбылася сустрэча спартавікоў ЗБМА з прадстаўнікамі Саюзу Польскае Моладзі вакол валейбольнае сеткі й пінпонгавага стала. У валейболе ЗБМаўцы праграпі, хоць, праўда, зь неблагім вынікам: 15:9, 10:15 і 13;15 (канчальны вынік 2:1 на карысьць польскае каманды). Адбіліся нашыя затое пінпонгавымі ракеткамі, выграўшы ў вагульным падліку 3:2.

Зь беларускага боку бралі ўдзел: Аўген Лысюк, Віцька Паланевіч, Павал Алексы, Мікола Александровіч і Міхась Казьлякоўскі.

**Вазьмеце прыклад!** Як даведваемся, у газэце „Уільсоньян", органе школы „Уілсоньян Джуньёр Гай Скул" у Пасэйку, Н. Дж., (№ 2, год. выд. 22) былі надрукаваныя два артыкулы „Каляды на Беларусі" й „Беларускі Вялікдзень", напісаныя беларускай вучаніцай **Алай Жамойдай.** Рэдакцыя „Б-М" цешыцца з гэтага, вітае Алу ды жадае, каб іншыя сябры ўзялі з Алы прыклад.

**КЛІЎЛЕНД**

У сыботу 17-га верасьня ў Беларускім доме адбыўся справаздачна-перавыбарны сход кліўлендзкага аддзелу ЗБМА. У прэзыдыюм сходу былі абраны: Сяргей Карніловіч — старшыня, Кастусь Калоша — сакратар. Пасьля прачытаньня справаздачы й акту рэвізійнае камісіі, сход удзяліў уступаючаму кіраўніцтву абсалютоным з падзякай. У новае кіраўніцтва аддзелу ўвайшлі: **Кастусь Калоша** — кіраўнік, **Коля Стрэчынь** — заступнік, **Міхась Яраховіч** — сакратар, **Лёля Міхальчык** — скарбнік і **Уладзімер Літвінка** — культурна-асьветны рэфэрэнт. Кіраўніцтва ў добрым складзе, і трэба спадзявацца, што будзе добра працаваць.

10-га кастрычніка адбылося першае паседжаньне кіраўніцтва аддзелу, дзе была падрабязна абмеркаваная дзейнасьць у будучыні. Цяпер пачаліся два турніры, шахматны й пінпонгавы. У кажным турніры каля 10 удзельнікаў.

**Дзесяцігодзьдзе ЗБМА**

У наступным годзе нашая арганізацыя ўрачыста адзначыць 10 год свае дзейнасьці.

Дасюль былі ўзгодненыя некаторыя пляны й надыходзяць новыя прапановы: плянуецца выдаць альбом, які ілюстраваў-бы дзейнасьць ЗБМА; ёсьць намер правесьці 10-ты гадавы зьезд з надзвычайнай урачыстасьцяй (ёсьць думка, каб яго правесьці ў скаўцка-лягернай атмасфэры на сьвежым паветры).

На гадавым сходзе ньюёркаўскага аддзелу была пададзеная новая прапанова: каб кажны аддзел ЗБМА, апрача ўдзелу ў 10-тым гадавым зьезьдзе, адзначыў угодкі ў сябе канцэртам з урачыстым банкетам ды запрошанымі прадстаўнікамі ад іншанацыянальных арганізацыяў моладзі.

Таксама да зьезду варта было-б прадумаць прапановы аб удзяленьні, паводля статуту ЗБМА, ганаровага сяброўства тым асобам, што заслугоўваюць на гэта.



**АЎСТРАЛІЯ**

У Мэльбурне сваім часам (1953-56 гг.) фармальна йснавалі тры беларускія арганізацыі моладзі: дзьве скаўцкія й адна спартовая (Спартовы Клюб); гэтая апошняя йснуе й да сяньня. Адна із скаўцкіх арганізацыяў пад кіраўніцтвам М. Басарыновіча й апякунствам М. Нікана брала актыўны ўдзел у нацыянальных урачыстасьцях Беларусаў Мэльбурну. На асаблівую ўвагу заслугоўвае факт, што нававысьвячаны сьцяг Згуртаваньня Беларусаў у Вікторыі быў пераказаны пад апеку моладзі-скаўтаў.

**Ад Рэдакцыі:** Аўтара гэтае карэспандэнцыі з Аўстраліі, сп. М. Н. ветліва просім падаць больш падрабязныя весткі пра **сучасны** стан арганізацыйнае, культурнае й спартовае дзейнасьці беларускае моладзі ў Мэльбурне, паколькі зацемка напісаная чамусьці ў мінулым часе.

**БЕЛАРУСКІЯ ЧЭМПІЁНЫ НА XVII АЛІМПІЯДЗЕ.**

Беларускія спартавікі здабылі шэраг залатых і срэбных мэдаляў на 17-ай Алімпіядзе ў Рыме.

У кіданьні молатам залаты мэдаль атрымаў **Васіль Рудзянкоў** із Жлобіна, 220 футаў, 1⅝ цаляў. Залатыя мэдалі за весляваньне на чаўне атрымалі **Леанід Гейштар** з Гомелю й **Сяргей Макаранка** зь Берасьця. У змаганьні рапірай два залатыя мэдалі выграў чэмпіён-Беларус **Віктар Ждановіч. Алег Караваеў** зь Менску перамог усіх у клясычным дужаньні бантамнай вагі.

Срэбны мэдаль здабыў **Уладзімер Гараеў** зь Менску ў патройным скоку з вынікам 54 футы, 6⅝ цаляў.

Вось гэта ведамыя нам беларускія мэдалістыя. Змагаліся яны й іншыя, менш ведамыя Беларусы, за Савецкі Саюз, а калі чытаць амэрыканскую прэсу, — за Расею.

Гэта сумны факт, што Беларусь, як такая, ня мае права браць удзел ў алімпіядах. Таксама не атрымалі права на ўдзел у Алімпіядзе Украіна, Летува, Лацьвія, Грузія ды іншыя савецкія „незалежныя" рэспублікі. Гэта прыклад савецка-расейскага імпэрыялізму й каляніялізму ў быццамбы непалітычнай галіне спорту.

Затое-ж калёніі, за долю якіх Савецкі Саюз гэтак праймаецца, бралі поўны й незалежны ўдзел — прыкладам ангельскія калёніі Кенія (дзе нядаўна было паўстаньне Маў-маў), Нігерыя й Уганда, галяндзкая калёнія Сурынам і амэрыканская тэрыторыя Пуэрта-Рыка.

---

Рэдакцыя „Б М" атрымала пасярэдніцтвам „American Council for Nationalities Service" інфармацыйны артыкул, які ніжэй падаем у скароце:

U. S. OFFICE OF EDUCATION COMMISSIONS STUDY OF LANGUAGE RESOURCES OF AMERICAN ETHNIC GROUPS.

A 2-year nationwide study of the non-English language resources of American ethnic groups has been commissioned by the U. S. Office of Education. The study, under the auspices of the University of Pennsylvania, will be conducted by Dr. Joshua A. Fishman, formerly Associate Professor of Human Relations and Psychology. A grant of $ 141,000 has been made by the Office of Education to finance this study, which will also have the cooperation and assistance of the American Council for Nationalities Service and its affiliates throughout the country.

In announcing the project, Dr. Fishman pointed out that for many years

American educators and government leaders have been concerned that too few Americans possess sufficient knowledge of languges other than English. In order *to strenghten America's cultural, commercial and diplomatic ties with the rest of the world, there is a great and growing need of individuals who can speak, read and write other languages. Americans of foreign birth and parentage constitute a tremendously rich but little known resource in this important field.*

Individuals and organisations interested in cooperating with Dr. Fishman should write to him care of the project's New York address:

Language Resources Project, 111 West 57th Street, New York 19, N. Y.

**ПЕРАДВЫБАРНЫ ДАДАТАК** да № 8 „Б М" апрацаваны рэдкалегіяй часапісу ў сувязі з выбарамі прэзыдэнта ЗША, (8 лістапада 1960 г.), быў высланы ўсім падпішчыкам і чытачом часапісу, што пражываюць у ЗША.




Зьмест дадатку:

1. Кароткая гісторыя рэспубліканскай і дэмакратычнай партыяў.
2. Кандыдаты на прэзыдэнта.
3. Плятформы партыяў і выказваньні кандыдатаў.
4. Ліст да кандыдатаў, высланы 9-тым гадавым зьездам ЗБМА, і адказы на гэты ліст.

## АДКАЗ З ВАШЫНГТОНУ

У верасьні 1960 г. ЗБМА выслала ў Белы Дом, на адрыс Віцэ-Прэзыдэнта Ніксана ліст, скарочаны зьмест якога падаем ніжэй:

Паважны Спадару Віцэ-Прэзыдэнце!

. . .Нашыя бацькі, сваякі й сябры беларускага паходжаньня — гэта палітычныя ўцекачы ад камунізму. Усё іхнае жыцьцё, надзеі й лятуценьні разбураныя гэтай ідэялёгіяй, прынесенай на Беларусь расейскімі штыхамі.

...У цяперашняй перадвыбарнай кампаніі мы, разам з усімі эмігрантамі прыдаем значаньне паглядам кандыдатаў на становішча й стратэгію ЗША ў змаганьні з камуністычнай Расеяй.

У 1959 і 1960 гг. Кангрэс ЗША прыняў рэзалюцыю аб Паняволеных народах. Рэзалюцыя выказвае сымпатыі ўсім народам, паняволеным расейскім і кітайскім камунізмам ды падтрымвае імкненьні гэтых народаў да свабоды.

Акт Кангрэсу вельмі ўзлаваў Хрушчова. Яго асабліва вывела з раўнавагі тое, што Кангрэс ЗША падтрымвае незалежніцкія рухі не-расейскіх народаў Сяродняе Азіі й Прыбалтыкі... Украінцаў, каўкаскіх народаў, народаў Сяродняе Азіі й Прыбылтыкі. . . . Хрушчова ня гэтулькі трывожыць страта ўсходня-зўрапейскіх сатэлітаў . . . гэта было-б толькі адступленьне зь ягонага боку. Яго найбольш страшыць ідэя самавызначэньня й незалежнасьці не-расейскіх народаў Савецкага Саюзу. Вызваленьне гэтых народаў зробіць з савецкае Расеі край другараднай вагі й спыніць расейскія лятуценьні апанаваньня сьвету.

Пытаньне палітычнае свабоды й незалежнасьці Беларусі, Украіны, Грузіі, Азэрбайджану, Латвіі й іншых трэба паставіць на парадак дня Задзіночаных Нацыяў разам з дэбатамі аб Альжыры, Конга, Сэнэгалі й Судане. Дыскусія гэтае праблемы найлепш пакажа запраўдны характар савецкага каляніялізму прадстаўніком вольнага сьвету, асабліва маладым нэўтральным гаспадарствам Азіі й Афрыкі, каторых часта ашуквае Масква сваім гіпакрытычным становішчам супраць каляніялізму.



У вадказ на гэты ліст ЗБМА атрымала зь міністэрства замежных справаў ЗША ліст наступнага зьместу:

**Міністэрства замежных справаў**
Department of State, Washington.
9 лістапада, 1960 г.

**Згуртаваньню Беларускае Моладзі ў Амэрыцы.**

Белы Дом пераслаў нам копію вашага ліста, прысланага нядаўна ў гасподу Прэзыдэнта для азнаямленьня нас з паглядамі вашае арганізацыі. Мы ўдзячныя вам за выказаньне сваіх паглядаў — на іх узятая ўвага адпаведнымі аддзеламі міністэрства.

З пашанаю,
за Міністра замежных справаў,
**Тэмпл Уанамэйкер.**

---

## ДА НАС ПІШУЦЬ:

*Як мы пісалі ўжо ў № 5 „БМ", у Нямеччыне засталося яшчэ цімала беларускае моладзі. Яны ня могуць выехаць за мора дзеля хваробы ў сям'і і падобных прычынаў. Бальшыня зь іх жыве ў вельмі цяжкіх матар'яльных і духовых абставінах. Трэба, каб мы, Беларусы Амэрыкі, Канады, Аўстраліі ўзялі над імі апеку, памаглі ім — калядным падарункам, асабістым лістом, цёплым словам, можа навет афідавітам, калі гэта магчыма.*

*Ніжэй зьмяшчаем урывак зь ліста, атрыманага зь Нямеччыны:*

*„Шчыра дзякую, што Вы прыслалі мне беларускую кніжку — дужа рад. Дарагія мае таварышы, хачу апісаць Вам усё маё жыцьцё: маю маму, двух братоў і сястру, і яшчэ няроднага бацьку. Я сам яшчэ не магу сабе зарабіць кавалак хлеба, мне ўсяго 14 год. Апрача таго, я хворы — маю скрыўлены крыж і мне расьце горбік. Пакуль што лячуся, а ці гэта паможа, адзін Госпад знае... Мая мама вельмі хворая — толькі яна й стараецца як можа для нас... Ужо два тыдні ня маем ані капейкі ў хаце. Дарагія мае таварышы! Мне сорам да Вас зварацацца з просьбай, але калі можаце мне чымнебудзь памагчы, буду Вам усё жыцьцё ўдзячны.*

*З гарачым прывітам,*
*Ваш, Келі Войнаў.*

*K. Woynow*
*Nuernberg 2, Oppelnerstr. 262/7-4*
*West Germany*

*З Канады нам піша сяброўка Зоя Патарога:*

*. . . Thank you very much for sending to us a "Byelorussian Youth" booklet. We certainly enjoyed reading many articles, especially "Where have you come from?" We found many Canadian and American people ask this question and after reading this article it will be much easier to explain to them just exactly who we are and where we come from.*

*Being Byelorussians ourselves, we, therefore, have tremendous interest in the activities of young Byelorussian people from all parts of Canada and U.S.A.; By keeping correspondence with you, we may be able to find a friendly relationship with many other young Belorussian people.*

*I suppose many of our young Byelorussian people attend university as my sister does and probably would like to correspond with one another. We certainly would appreciate some of the views and points from other young Byelorussian people.*

*Yours truly,*
*Zoya Potorocza,*
*485 Spence Street*
*Winnipeg 2, Mannitoba*
*Canada*

**АД Рэдакцыі:** Зоя шчыра падтрымвае дзейнасьць беларускае моладзі на эміграцыі. Сярод сваіх сяброў у Вініпэгу яна знайшла ўжо шасьцёх новых падпішчыкаў на „БМ". Вазьмем зь яе прыклад! Хто паб'е гэты рэкорд?

*П. С.: Апошні сёмы нумар „БМ" мне вельмі падабаецца. Часапіс зрабіў добры пагын, друкуючы карысную інфармацыю пра Беларусь у ангельскай мове. Добра было-б зрабіць адбіткі ангельскага тэксту у большай колькасьці, каб можна было распаўсюджваць пры розных нагодах.* **Я. А., Лёс-Анджэлес**

## U. S. ARMY NEEDS BYELORUSSIAN LANGUAGE

Young men with a knowledge of one of the Slavic languages are needed by the Army, and those who qualify will be able to discharge their two-year draft requirement in just six months, according to a release sent by the Headquarters of the First United States Army. The openings for men between the ages of 17½ and 25 with a knowledge of a Slavic language are in the U. S. Army Reserve and the job is described as „interesting and challenging", with many benefits available.

Those who are interested in this unusual opportunity should telephone the U. S. Army Reserve Training Center in Lodi, N. J., DIamond 2-3172. Additional information may be obtained from Major Gumpertz, by telephoning at New York City phone WHitehall 4-7700, extension 3682.

*Сяброве!*

*Дазволю сабе выказаць колькі думак і заўветаў што да прабегу 9-га зьезду ЗБМА.*

*Агулам, зьезд прайшоў вельмі сьціпла. Было-б пажадана, каб у будучыні кажнай асобе даручалася ўсяго адна функцыя, а ня колькі. Асабліва менш адказныя становішчы трэба даваць малодшым, каб яны паступова звыкалі да кіраваньня Згуртаваньня.*

*Па выбары прэзыдыюму зьезду выявілася таксама, што туды ўвайшлі асобы, што найбольш выступалі з рознымі справаздачамі, прамовамі й заўветамі. Было-б куды карысьней выбраць у прэзыдыюм такіх асобаў, што ня былі зьвязаныя іншымі абавязкамі ў часе зьезду.*

*Справаздача часапісу „Беларуская Моладзь" была прынятая прыхільна. Шкада, аднак, што ад 4-га нумару ў часапісе ня друкуюцца больш артыкулы з рэлігійным зьместам.*

*Цікава было-б таксама даведацца ад арганізатараў зьезду, чаму не адбыўся конкурс народнае вопраткі, да якога шмат хто рыхтаваўся?*

*Мае пажаданьні новаму галоўнаму кіраўніцтву: мы далі вам свой давер для добрае й карыснае працы — выконвайце яе актыўна й сумленна.*

**Міхась Паляшук**, Нью-Ёрк

**Ад Рэдакцыі:**

**Дарагая Герда Кабушка!**

**Заміж зьмяшчаць Твой ліст, даём адказ на яго, зь якога будзе таксама відаць, пра што Ты пішаш (кораценька закрануў гэтае самае пытаньне ў сваім лісьце да нас і Міхась Паляшук; гл. вышэй).**

**Вось-жа мы поўнасьцяй прызнаём вялізарнае значаньне рэлігійнага ўзгадаваньня моладзі. Важнасьць гэткага ўзгадаваньня традыцыйна прызнавалася ў нашым народзе, і найлепшы довад гэтага — той факт, што ў нас на эміграцыі выходзіць сем рэлігійных часапісаў, якія, у згодзе із сваім веравызнаньнем) мы павінны чытаць і падтрымваць. Мы можам выкарыстоўваць для сваіх духовых патрэбаў таксама рэлігійныя выданьні ў іншых мовах, паколькі рэлігія ў тлумачэньні сваіх асноўных праўдаў і абрадаў ня зьвязаная зь нейкай паасобнай нацыянальнасьцяй. Мы-ж, сваім парадкам, хочам прысьвяціць наяўныя 18 балонак адзінага часапісу беларускае моладзі нацыянальнаму ўзгадаваньню моладзі, бачачы, што пытаньні рэлігійнага ўзгадаваньня могуць быць разьвязаныя вышэй пералічанымі спосабамі.**

**Рэдкалегія:** Ю. Станкевіч, В. Кіпель, В. Станкевіч, В. Русак, А. Несьцяровіч (заступнік гал. кір. ЗБМА). Я. Запруднік.

**Карэспандэнты:** Ул. Дунец, Н. Жызьнеўскі.

**Адміністратар:** Ю. Станкевіч.

**Тэхнічны рэдактар:** В. Мельяновіч.

**Цана: 50 ¢**